ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 15 (1613) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 12 КРАСАВІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## ХАЦЕЛАСЯ Б ДАСЛУХАЦЬ ПЕСНЮ...

**Пытанне:** Скажыце нам аб галоўных напрамках дзейнасці Кафедры, якой кіруеце?

**Адказ:** Наша Кафедра існуе ўжо многа гадоў. Асаблівую навуковую і дыдактычную актыўнасць праяўляе яна пасля вайны. У сучасны момант у ёй дваццаць навуковых супрацоўнікаў, у тым два прафесары і адзінаццаць дацэнтаў. Займаемся мы вывучэннем гісторыі беларускай літаратуры дакастрычніцкай і сучаснай. Некаторыя з нашых супрацоўнікаў вывучаюць праблемы тэорыі літаратуры. Пры Кафедры існуе фальклорна-лінгвістычная лабараторыя, якая апрацоўвае сучасныя запісы беларускага фальклору. Працуем таксама ў галіне падрыхтоўкі метадычных дапаможнікаў і падручнікаў. Перавыдаем пашыраны варыянт хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX ст. Рыхтуем хрэстаматыю па беларускай літаратуры 20-тых, 30-тых гадоў XX ст. Неўзабаве будзе перавыдадзены мой падручнік „Гісторыя беларускай літаратуры". У 1981 годзе выйшла новая праграма па савецкай беларускай літаратуры. Рыхтуем таксама праграму па дарэвалюцыйнай літаратуры. Манаграфію па творчасці В. Быкава заканчвае Д. Бугаёў. Манаграфію пра З. Бядулю рыхтуе В. Лашкевіч, а М. Ефімава — пра дзіцячую літаратуру. В. Рагойша перавыдае „Паэтычны слоўнік". Стараемся працаваць па-новаму, і гэта звязана з тымі тэндэнцыямі, якія дамінуюць у нашым грамадскім і палітычным жыцці. Адмаўляемся ад апісальных лекцый у карысць лекцый праблемна-канцэптуальных. Стараемся ўзмоцніць тое, што называецца эмацыянальным інтэлектуалізмам. Робім гэта дзеля актывізацыі самастойнага мыслення ў студэнтаў. Работы вельмі многа і якраз яна і акрэслівае сэнс нашага жыцця.



**(Размова з загадчыкам Кафедры беларускай літаратуры ў Беларускім дзяржаўным універсітэце праф. А. Лойкам)**

**Пытанне:** Наколькі мне вядома, пры вашай Кафедры існуе літаратурнае аб'яднанне. Ахарактарызуйце яго дзейнасць.

**Адказ:** Сапраўды, з 1964 года існуе пры нашай Кафедры агульнауніверсітэцкае літаратурнае аб'яднанне „Узлёт". На нашым рахунку чатыры паэтычныя кніжкі: „Узлёт", „Натхненне", „Вёсны", „Вусны" і адна анталогія — „Універсітэт паэтычны". У „Вуснах" выступаюць не толькі савецкія студэнты, але змешчаны пераклады вершаў студэнтаў з Сірыі, Конга, Палесціны, В'етнама і іншых.

Са „Узлёту" выйшлі такія сёння шырока вядомыя паэты і празаікі як: Р. Семашкевіч, А. Разанаў, Я. Янішчыц, А. Жук, С. Законнікаў, А. Мажэйка, К. Камейша, Л. Дайнека, А. Пісьменкоў, Я. Мальчэўская, Г. Булыка і іншыя.

Бліжэйшы намер „Узлёту" — падрыхтоўка да выдання маладой украінскай паэзіі. Арганізуе ён таксама традыцыйныя вечары — Аснежаныя рыфмы. Пры-

(Працяг на стар. 4)

## Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

Ехаў я ў Боцькі, каб сустрэцца з **Уладзімірам Турковічам**, які з'яўляецца рэкардсменам па ўраджайнасці збожжа. Ён даўно абагнаў усялякія паказчыкі ў гэтай галіне. Нават у еўрапейскіх маштабах. Сярэдні ўраджай за мінулы год склаў у яго 73 цэнтнеры збожжа з аднаго гектара пасеваў, а пшаніца „Эміка" сыпанула яму 82 цэнтнеры!

Гучыць гэта, як фантастычная казка, калі вядома, што сярэдні ўраджай па ўсёй Беласточчыне далёка яшчэ не сягае і 30 цэнтнераў з гектара. Але вынікі па ўраджайнасці ў У. Турковіча правераны і пацверджаны спецыялістамі з Ваяводскага цэнтра сельскагаспадарчага прагрэсу.

## ШТО ЧУВАЦЬ У БОЦЬКАХ?

Упершыню я пазнаёміўся з імі на сельскагаспадарчай выстаўцы, якая ў верасні мінулага года з нагоды ваяводскіх дажынак была наладжана ў Беластоку.

На жаль, У. Турковіча не аказалася дома, і я вымушаны быў звярнуцца за паясненнямі да гміннага спецыяліста па сельскагаспадарчых справах, якім у Боцьках аказаўся **Зенан Пухальскі.**

— Калі гаварыць пра Турковіча, — заявіў ён, — дык гэта вынік так званай комплекснай тэхналогіі па вырошчванні збожжавых культур.

— Ці яна, гэтая комплексная тэхналогія, знаходзіць шырэйшае прымяненне ў вашай гміне? Якія ў вас сярэднія паказчыкі па ўраджайнасці? — пацікавіўся я.

— На жаль, не магу я сказаць, што комплексная тэхналогія па вырошчванні збожжа знаходзіць у нас шырэйшае прымяненне, — адказаў мой размоўца. — Яна вельмі ж працаёмкая і патрабавальная ў сэнсе тэхналагічнага рэжыму...

У гэты момант я падумаў, што трэба будзе, аднак, сустрэцца мне з У. Турковічам, бо ён найлепш ведае вартасці і заганы гэтай тэхналогіі. Гэта ж калі б нам

(Працяг на стар. 5)

## АДЧАРАВАННЕ ПЕРСІДСКІХ ДЫВАНОЎ

Беластоцкая фабрыка дываноў „Агнела" належыць да наймаладзейшых у горадзе. Яе разбудова, зрэшты, яшчэ працягваецца.

У прамысловым маштабе выраб дываноў пачаўся тут у 1980 г., калі то фабрыка выткала іх 154 тысячы квадратных метраў. З года ў год вытворчасць расла і ў 1986 годзе дасягнула 1 млн. 226 тыс. кв. м. Цяпер гэта трэцяя па велічыні прадукцыі фабрыка дываноў у Польшчы, пасля „Дывіляна" ў Лодзі і „Кавараў" у Яленягорскім ваяводстве.

Далейшы рост прадукцыі залежыць ад разбудовы фабрыкі

(Працяг на стар. 6)



**Дыван, які рысуе Валя Бучылка, будзе прададзены ў Федэратыўную Рэспубліку Германіі, адкуль паступіў заказ на „перса". Адпак, як бачыце, новае і творчае ў ім тое, што Валя па-мастацку пераасэнсавала гэты ўзор. Бачым на ім тыпова беларускі арнамент. Валя родам з-пад Бельска і сваё мастацкае бачанне свету носіць па продках у сваім сэрцы. Я надта ўсхваляваласся, калі ўбачыла гэты ўзор Валі. Успомніўся верш Максіма Багдановіча „Слуцкія ткачыхі": „І тчэ, забыўшыся, рука, замест персідскага ўзора, цвяток радзімы васілька".**




## АБ БУДУЧЫНІ СВЕТУ

Я ніколі прафесійна не займаўся палітыкай, аднак палітыкам-аматарам быў заўсёды. Мая страсць не толькі не гасне, але з гадамі ўсё болей разгараецца. І бадай што ніколі яшчэ я не глядзеў на свет з такой трывогай, як сёння. Мы ж сапраўды сядзім на бочцы з порахам; пры гэтым бушуем, курым, п'ем і б'ем у бочку абцасамі, жывём, як бы ў міры, але які ж гэта мір, калі ад 1945 года было праведзена на свеце болей чым тысяча пяцьсот атамных узрываў. Свет нашпігаваны атамнымі ракетамі, бомбамі, снарадамі, мінамі. Адна апошняя падводная лодка мае большую сілу знішчэння, чым усе танкі, гарматы, кулямёты, карабіны і самалёты, ужытыя ўсімі арміямі на ўсіх франтах у часе пяцігадовай другой сусветнай вайны. А колькі ёсць такіх лодак? А колькі яшчэ апрача іх ракет, самалётаў, гармат, аўтаматаў, мін, патронаў?

Некаторыя гавораць: усё гэта глупства, атамная зброя не будзе ўжыта, як не быў ужыты ў другую сусветную вайну баявы атрутны газ, хоць мелі яго многія краіны. Нават гітлераўская Германія, гінучы, не пасмела ўжыць газу. Гэта праўда. Аднак гэта не абазначае, што так будзе заўсёды. Заўсёды можа знайсціся шаленец, які націсне стартавы гузік і атамная ракета ўзляціць у паветра. А ў след за ёю або супраць яе узляцяць тысячы іншых ракет. Як вядома, многія дзяржавы не хочуць забавязацца да таго, што першыя не ўжывуць атамнай зброі. Значыць выкарыстанне ядзернай зброі ўключана ў іх нармальныя стратэгічныя планы і намеры.

Я ўжо сказаў, што з'яўляюся толькі палітыкам-аматарам і таму мае многія палітычныя погляды могуць быць наіўныя. Гледзячы на сённяшні свет, на спробы перагавораў і пагадненняў, даходжу да вываду, што ўсё ж такі Гарбачоў сваімі мірнымі ініцыятывамі загнаў Рэйгана ў сляпы завулак. Каб выйсці з гэтага тупіка, Рэйган так ці інакш мусіць прайсці каля Гарбачова. Гэта значыць, што мусіць пайсці на яго з кулакамі або з працягнутымі да згоды далонямі. Здаецца мне, што ўсе людзі свету аднолькава зацікаўлены, каб з гэтага завулка Гарбачоў з Рэйганам выйшлі падаўшы сабе рукі.

А цяпер мне хочацца крышку наіўна памістыфікаваць. Здаецца мне, што маю вельмі просты рэцэпт на захаванне вечнага міру. Прапаную ўсім парламентам свету, каб прынялі адну і тую самую пастанову: „Калі салдат пакіне самавольна ў казармах зброю і пойдзе дахаты, не можа быць пакараны або аштрафаваны і не можа быць прымушаны вярнуцца назад у казармы“. Здаецца мне, што ў такой сітуацыі ўсе салдаты разышліся б па хатах і вайну маглі б весці выключна генералы. А гэтыя, як вядома, у штыкавыя атакі не рвуцца і, мабыць, бомбаў таксама кідаць не павінны. Зразумела, што я свядома ў панурую праблему, якой ёсць пагроза вайны, уводжу паўвясёлы элемент.

Вядома, што такая паважная справа, як раззбраенне, можа быць толькі вырашана найвышэйшымі аўтарытэтамі і парламентамі. Сучасны свет, на жаль, не дае нам прыкладаў, якія б сведчылі аб тым, што правячыя колы кіруюцца рацыяналізмам і развагай. На жаль, шматлікія факты сведчаць аб чымсьці адваротным. Многія палітыкі не зрабілі ніякіх вывадаў з мінулай вайны. Напамінаюць яны французскіх Бурбонаў.

**(Працяг на стар. 4)**




## ПОЛЬСКІ ПАСОЛ У ГРОДНЕ

Прыбыўшы з візітам у Беларусь Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў СССР У. Натарф наведаў Гродна. 10 сакавіка сустрэўся ён з партыйнымі і савецкімі кіраўнікамі вобласці і горада. Як паведамляе „Гродненская правда“, шмат увагі было ўдзелена развіццю непасрэдных вытворчых і сяброўскіх кантактаў паміж працоўнымі калектывамі Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства.

## ПРАГРЭСІЎНАЯ ТЭХНІКА

Жодзіна. Палепшыла камплектацыю канвеераў Беларускага аб'яднання па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў прадукцыя кавальскага завода цяжкіх штамповак, другая чарга якога ўступіла тут у строй. На зборку каробак перадач кар'ерных самазвалаў паступілі першыя дэталі, якія сышлі не з металарэзных станкоў, а з прэсаў. Прагрэсіўная тэхналогія знайшла прымяненне і на выпуску многіх вузлоў аўтамашын маркі „МАЗ“, „МаАЗ“ і „БелАЗ“, якія яшчэ нядаўна дастаўляліся ў Жодзіна з некалькіх гарадоў краіны. З выхадам на праектную магутнасць прадпрыемства поўнасцю забяспечыць сваёй прадукцыяй аўтамабільныя заводы Беларусі.

## ФІРМЕННЫ МАГАЗІН

Віцебск. Своеасаблівым цэнтрам па вывучэнню пакупніцкага попыту стаў фірменны магазін „Абутак“ мясцовай фабрыкі „Чырвоны Кастрычнік“. Спецыяльна да яго адкрыцця першую партыю асабліва модных вырабаў выпусціў і новы ўчастак малых серый. Дзесяткі пар элегантных жаночых туфляў будуць штодзённа паступаць на прылаўкі іменна адсюль. У аддзелах і секцыях магазіна прадстаўлена ўся калекцыя мадэлей, асвоеных прадпрыемствам. Тут жа плануецца „абкатка“ эксперыментальных серый, рэкамендаваных да масавага выпуску.

## СПАДАРОЖНЫМ ТРАНСПАРТАМ

Нядаўна ў Гродне ўвайшоў у сілу часовы парадак арганізацыі перавозак грузаў насельніцтву спадарожным аўтатранспартам. У ім прадбачваецца і аплата за паслугу, і заахвочванне вадзіцеляў. Перавозка багажу, іншых прадметаў насельніцтву ажыццяўляецца спадарожным аўтатранспартам у рамках устаноўленага заданнем маршруту. Вадзіцелі выконваюць усе разлікі з кліентам. Плата невялікая.

## МУЗЕЙ У ВАЎКАВЫСКУ

Амаль трыццаць пяць тысяч экспанатаў налічвае ваенна-гістарычны музей імя Баграціёна ў Ваўкавыску. Абшырны матэрыял расказвае аб вайне 1812 года. Дарэчы, у будынку музея размяшчаўся і штаб-кватэра другой Заходняй арміі, якой камандаваў Баграціён. У гэтым годзе запланавана будаўніцтва новага будынка музея, але і стары, як помнік архітэктуры, будзе захаваны. Новыя плошчы дазволяць пашырыць экспазіцыі музея. Папоўняцца матэрыялы аб барацьбе за ўстанаўленне ў горадзе і раёне Савецкай улады, аб грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнах. А за дапамогай музей звярнуўся да ўсіх жыхароў раёна. Будзе рады, калі садзеянне ў зборы экспанатаў акажуць не толькі землякі. Адрас музея: Ваўкавыск, вуліца Баграціёна, 10.

## БАСЕЙН ДЛЯ ВЕСЛЯРОЎ

У Мазыры намечана стварыць буйнейшы ў рэспубліцы цэнтр па веславанню. Тут будуць праходзіць трэніроўкі спартсменаў, праводзіцца рэспубліканскія, усесаюзныя спаборніцтвы. Цяпер рэканструюецца памяшканне былога музычнага вучылішча, дзе размяшчаецца вучэбна-трэніровачныя комплексы, элінг (памяшканне для захоўвання лодак), трэнажорная, медкабінет, гасцініца і саўна. Яшчэ адна база паўстае на левым беразе Прыпяці. Намечана таксама будаўніцтва басейна для трэніровак у зімовы час.

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ІНДЫІ

# На Параснаце

Ва ўсходнеіндыйскім штаце Бігар, што недалёка ад Бенгаліі, знаходзіцца галоўны цэнтр пілігрымаў джэйнаў — Параснат. Назва гэтая ўзялася ад назвы гары, на верхавіне якой вышыней у 1366 метраў, стаіць 24ты храм джэйнаў. Іншыя дваццаць тры храмы згрудзіліся на невялікай прасторы ля падножжа гары, у дзевяці кіламетрах ад тае верхавіны.

Рэлігія джэйнаў узнікла каля пяцісотага года да нашай эры, у тыя самыя часы, што і будызм. Але рэлігія джэйнаў ніколі не сягнула за межы Індыі. Веруючых у іх усяго каля чатырох мільёнаў, аднак храмы іхнія велічныя, багатыя, чысцюсенькія. Параснат — невялікая мясціна, большую частку якой займаюць менавіта храмы. Побач гэтых святынь ліпяць бедныя хаткі, замурзаныя крамікі з сувенірамі, прадуктамі; бываюць мініяцюрныя рэстаранікі, прымітыўныя і калтыжныя, з мухамі. Гэты кідкі кантраст нэндзы людзей, гліняных найчасцей, домікаў без вокнаў і печак, асляпляе багацце храмаў, якія можна параўнаць з раманскімі касцёламі ды цэрквамі Еўропы. Храмы пабудаваны з цэглы і белага або шэрага мармуру. У іх цікавыя фасады, высозныя калоны і аніводная з іх не палобная на іншую.

Калі мы выйшлі з машыны, абступіла нас плойма жабракоў і жабрачак з дзяцьмі. Яны працягвалі да нас рукі, каб ім нешта даць. Ішлі яны за намі хмараю аж да самых варотаў храма. Джэйны вераць у пераўвасабленне, гэта значыць, што душа кожнага чалавека і кожнага жывога стварэння пераходзіць у іншае народжанае стварэнне. У залежнасці ад таго, як вяла яна сябе пры жыцці, пераходзіць пасля смерці цела ў лепшае або горшае іншае стварэнне. Можа перайсці, напрыклад, у дзіця багатага чалавека. А калі вяла сябе кепска, то пераходзіць у мурашку ці ў муху. Таму джэйны адносяцца з вялікай павагаю да ўсяго, што жывое. Ніхто з іх не есць мяса, усе яны вегетарыянцы, а іхнія манахі засланяюць павязкамі рот, каб часам не ўлящела туды і не загінула нейкая мушка або падобнае стварэнне; ідучы, пазіраюць яны пад свае ногі, каб не наступіць на нешта жывое. Джэйны падзяляюцца на дзве секты — Шветамбара і Дыгамбара. Другая з гэтых сектаў больш аскетычная і знаходзіцца яна ў Параснаце. Падзяляецца яна яшчэ на дзве групы: адны ходзяць у белым адзенні, а другія — голыя (называюць іх „неба адзеннем“). Аднак, зусім голых я бачыў толькі мужчын, а жанчыны былі апрануты ў доўгія сары і рэдка якая з іх мела адкрытую палову сваіх грудзей.

Перад усходнямі або варотамі храма трэба скінуць з ног абутак і пакінуць яго на месцы. Не дазваляецца браць з сабою нічога, што зроблена са скуры. Таму трэба пакінуць і дзягу ці футляр фотаапарата, усё пад апекаю хлопца, які вартуе каля ўваходу. У першым храме стаіць невялікія скульптуры нейкіх багоў, марморовыя, а падлога бліскучым шэрым мармурам. Дазволена фатаграфавацца побач фігураў іхніх багоў. Зрэшты, джэйны не вельмі і паважаюць багоў. Лічаць яны, што сусвет бясконцы і аніякі бог не мог стварыць яго. Багі могуць дапамагаць або перашкаджаць людзям, і не болей. Найважнейшае ў джэйнаў — гэта маральныя адносіны чалавека да чалавека, і да ўсяго жывога.

За першым храмам стаіць высокая скульптура, гэтак метраў з дзесяць. Гэта скульптура іхняга дваццаць чацвёртага прарока Махавіра, выразьбленая з белага мармуру. Праўда, не ва ўсе храмы дазволена прыходзіць з фотаапаратам, асабліва ў час багаслужбы, калі чуваць музыку і бубны. Багаслужба ў джэйнаў кароценькая, каля дзесяці мінут; пасля джэйны ідуць дамоў.

Самым важным храмам у джэйнаў — гэта храм, які стаіць на той гары. Да яго трэба ісці вузкай дарогай скрозь густога лесу.

**(Працяг на стар. 8)**

# КОЖНЫЯ ТРЫ ГАДЫ Ў БЕЛАСТОКУ

У культурным жыцці горада Беластока і ваяводства паявілася новае мерапрыемства агульнапольскага абсягу. Называецца Трыенале краязнаўча-турысцкай кніжкі. Працягвалася яно ад 3 да 22 сакавіка. (Слова „трыенале", прынятае ў адносінах да рознага роду выставак, абазначае, што імпрэза будзе паўтарацца кожныя тры гады).

Галоўныя яго ініцыятары: Беластоцкае выставачнае бюро (БВА) і аддзел культуры Ваяводскай управы. Галоўным жа адказным была Мар'я Маранда — шматгадовы дырэктар БВА, цяпер — дырэктар аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку.

Мы звярнуліся да дырэктара М. Маранды з просьбай ахарактарызаваць заданні і мэты беластоцкага Трыенале — новай у маштабе краіны імпрэзы. Яна павінна аб'яднаць сілы, знайсці новыя спосабы і фінансавыя сродкі, адкрыць і зацікавіць новых аўтараў, паказаць нявыкарыстаныя магчымасці ў галіне турызму і краязнаўства на Беластоцкай зямлі. Адказы на нашы пытанні ў далейшым, а зараз некалькі ўласных слоў.

Факт, што ў нашай краіне не існуе сапраўдны турызм, а тое, што мы назіраем, — гэта ў сэнсе культуры нейкае непаразуменне, а не турызм. Мы не ўмеем быць турыстамі, бо вочы нам часта асляпляе гандлярства (за граніцай) і гарэлка (у сваёй краіне). Нават выезд дарослых у такі турысцка-краязнаўчы храм як Белавежская пушча — гэта выезд на папойку. Але каб раслі сапраўдныя культурныя турысты, патрэбна багатая інфармацыйная і пазнавальная літаратура. Патрэбны рознага роду інфарматары, розныя альбомы, карты, планы.

У Польшчы вельмі многія ўстановы займаюцца турызмам. Можа таму няма каардынацыі, а кніжачкі па турызму выдаюцца часта нецікавыя, выпадковыя і то выдаўцамі, якія не дацэньваюць гэтай справы. Напрыклад, беластоцкія турысцкія выданні пераважна на нізкім выдавецкім узроўні, бедныя і прымітыўныя па зместу. З нагоды Трыенале я прагледзела амаль усе выданні аб Беласточчыне і... не атрымала ніякай патрэбнай інфармацыі аб гэтай зямлі і яе людзях. Пустаслоўная траскатня аб прыгожай прыродзе — гэта ж не турысцкая інфармацыя. Трэба ж быць такім „геніем", каб пішучы турысцкі інфарматар аб Беласточчыне, нават слоўцам не абмовіцца пра нацыянальную і рэлігійную асаблівасці гэтай зямлі, пра этнаграфічнае і фальклорнае яе багацці, пра багацці народнага мастацтва, пра цікавае будаўніцтва — народнае і храмавае, пра людзей урэшце, якіх нідзе больш такіх не сустрэнеш.

Я разлічваю трохі на Трыенале, што прынясе змены поглядаў і паводзін і дапаможа адкрыць Беласточчыну, усё яе багацце і прыгажосць, таксама беларускае багацце і прыгажосць. Такой мэтай, як я разумею, кіраваліся арганізатары беластоцкага мерапрыемства.

А вось наша размова з галоўным арганізатарам І беластоцкага Трыенале Мар'яй Марандай.

— Чаму ў Беластоку нарадзілася такая ініцыятыва?

— Вартасць Беласточчыны як турысцка-краязнаўчай жамчужыны не падлягае сумненню. Гэтая ж зямля мае ўсе асноўныя турысцка-краязнаўчыя каштоўнасці, але яны нявыкарыстаныя, неадкрытыя. Спадзяемся наплыву турыстаў, але мала маем інфарматараў пра Беластоцкую зямлю. На 400 кніжных выданняў з усяе Польшчы, паказаных на выстаўцы І Трыенале, толькі 1 працэнт датычыў Беласточчыны. Трыенале павінна змяніць гэтыя прапорцыі, узмоцніць наш кніжны фонд. Таго хочам і таго будзем дабівацца. Да наступнага Трыенале трэба падрыхтаваць і выдаць новыя турысцка-краязнаўчыя кніжкі аб Беласточчыне.

— Ці выдаўцы з усяе Польшчы зацікавіліся беластоцкім мерапрыемствам і Беласточчынай як турысцкай Меккай?

— Першае Трыенале было адобрана так па праграме як і па спосабу рэалізацыі. Падтрымала нас, высылаючы свае выданні, 19 з 30 выдаўцоў турысцка-краязнаўчай літаратуры. Хочам павялічыць зацікаўленне польскіх выдаўцоў Беластоцкай зямлёй, прыгожай сваімі краявідамі, але таксама надта багатай і разнароднай у сэнсе культурнай спадчыны. Возьмем, напрыклад, плынь беларускую ў культуры Беласточчыны. Гэтая плынь у будучыні можа вырашыць аб такім турысцка-краязнаўчым вобразе Беласточчыны, якога ўвогуле нідзе больш няма. Калі б нам удалося заахвоціць больш выдаўцоў павярнуцца тварам да нашай зямлі, мы палічылі б гэта вялікім дасягненнем.

— Мне здаецца, што ў нас няма моцных аўтараў тэкстаў, якія б самі ведалі, цанілі і любілі гэтую зямлю, а таксама хацелі яе паказаць такой, якой яна ёсць у сапраўднасці, патрапілі заахвоціць наведваць яе.

— А дзе ж вашы беларускія аўтары? Павінны ўключыцца! Хочам і мусім узмацняць творчыя аўтарскія калектывы, якія маем. Трыенале — мерапрыемства, якое мае шмат напрамкаў. Паказваць хочам і кніжку, і фота і фільм аб Беласточчыне, а ў кожнай галіне патрэбны аўтары, мастакі. Хочам і будзем заахвочваць і выдаўцоў выдаваць кніжкі, альбомы аб Беласточчыне. Фатографаў маем добрых, вядомых. На фотаальбом Волкава заказ ужо зрабіла выдавецтва „Спорт і турыстыка". Ад І Трыенале пачала камплектавацца фататэка, якая будзе збіраць і дакументаваць вобраз Беласточчыны. Некаторыя фота былі ўжо куплены на Трыенале.

Фільмаў было паказана 6. Што ж, мала фільмаў аб Беласточчыне. Толькі Белавежа мае крыху, іншыя — нічога. А ёсць у нас мноства тэмаў на фільмы і то зусім някранутых.

— Верыце, што сітуацыя зменіцца?

— За тры гады на ІІ Трыенале нашых турысцка-краязнаўчых кніжак будзе 10 прац., гэта значыць — каля 40 пазіцый.

— Жадаем удач і ад вашага імя заклікаем аўтараў тэкстаў, фатографаў, працаўнікоў кіно, мастакоў да супрацоўніцтва ў рамках Трыенале, да кантактаў з аддзелам культуры Ваяводскай управы ў Беластоку, да працы над новай турысцка-краязнаўчай картай Беласточчыны.

**Вера Валкавыцкая**

Фота Г. Рагазінскага



**Члены конкурснага суда І Трыенале. Злева: Багдан Клюкоўскі з часопіса „Новыя кніжкі", Андрэй Гордан — прэзас Галоўнага праўлення ПТТК, Мар'я Маранда — дырэктар аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку, Павел Персцінскі — мастак-фатограф з Кельцаў.**




## ЮЗВЮК НЕ ДАДУМАЎ ПРАБЛЕМУ

Вывады Уладзіміра Юзвюка ў яго артыкуле „Аб моладзі шырэй", змешчаным у першым лютаўскім нумары „Нівы", не зусім лагічныя. Піша ён, што ў беларускіх вёсках мала маладых, усяго дзесяць працэнтаў, і адначасна наракае, што Галоўнае праўленне БГКТ займалася на сваім пленуме праблемамі беларускай моладзі ў гарадах. Я лічу, што гэта лагічна, калі ГП БГКТ цікавіцца большай часткай нашай моладзі. Грамадскі вопыт беларускай гарадской моладзі прыдатны вясковай. Вельмі ж шмат вяскоўцаў вучыцца па гарадах, здабывае адукацыю і прафесію, і калі гэтыя маладыя потым не вяртаюцца ў свае вёскі, бо не знаходзяць там работы сабе паводле вывучанай спецыяльнасці, дык не іхняя ў тым віна. І не наша ўсіх, хоць мы і трывожымся паміраннем вёскі.

На нашых вачах адбываецца цывілізацыйны працэс, вынік якога залежыць ад культурнага ўзроўню людзей наогул. Я не здзіўляюся, што малады чалавек хоча жыць па-людску. І, урэшце рэшт, якая яму можа быць карысць ад вялікіх грошай, якія заробіць у вёсцы, калі няма яму там перспектыў на людскі быт, няма з кім нават ажаніцца (хлопцаў трохі застаецца ў вёсках, але дзяўчат ужо зусім няма). Таму, пане Юзвюк, тут і „універсальныя формы" не дапамогуць, калі сітуацыя склалася проста ненатуральная. А яшчэ і ўрадніцтва тутэйшае не пазбылося псіхалогіі мінулага, царскага ці санацыйнага, веку і фанабэрыць, што аж гідка глядзець ды слухаць. Зашмат яшчэ якойсьці „афрыкі" ў нашым краі, начальнікі нашы занадта часта паночкамі выглядаць хочуць, ад мужыцтва свайго не адчапіўшыся, усё кланяйся яму, бы пану дабрадзею даўняму. А ці ведае Юзвюк, колькі тэлефонаў хаця б тых у гаспадароў? А тэлефон — гэта вялікая справа ў добрым і нястратным у сэнсе часу вядзенні ўласнай гаспадаркі. Ураднікі маюць тэлефоны, наймізэрны з іх сядзіць, во, каля тэлефона, і каб хто запытаў, нашто і чаму?

У гэтых справах БГКТ не ў сіле дапамагчы. Тут патрэбна адпаведная палітыка дзяржавы. І таму, як я думаю, добра і тое, што БГКТ не пакінула аблогам справы гарадской моладзі, хаця гэта не значыць, што мае зусім пакінуць працу з моладдзю ў вёсцы.

**М. Махнацкі**

## НЕВЫГОДНЫ ФАКТ?

Польскія гісторыкі ахвотна маўчаць пра факт, што будучы кароль Ягайла быў праваслаўным. Гэтае маўчанне зрабілася ўжо нейкаю хваравітасцю ў іх Не так даўно ўзяўся я чытаць артыкул Уладзіміра Ярмоліка „Між Крэвам і Люблінам, гэта значыць: пра польска-літоўскія адносіны ў гадах 1389-1569", які змешчана ў штомесячніку Mówią Wieki № 2 ад 1986 г. Усеўся я за гэты артыкул і задаў сабе латарэйную загадку: скажа Ярмолік праўду пра Ягайлу ці не скажа? Яшчэ не пачаўшы чытаць, я сказаў быў сабе: „не, не скажа ён". І не памыліўся, як аказалася тое пасля прачытання мною артыкула.

Ярмолік піша, што Ягайла быў ахрышчаны ў 1386 годзе ў Кракаве, а гэта значыць, што быў ён язычнік.

Хлусня! Ягайла, да яго другога хрышчэння ў Кракаве 16 лютага 1386 г., быў ужо праваслаўным. Ён, па-праўдзе кажучы, толькі перахрысціўся потым з праваслаўнага ў каталіка. Каталіцкае веравызнанне было ўмовою жаніцьбы з венгерскай каралеўнай Ядвігай, у выніку гэ-

(Працяг на стар. 4)

### КАЛІ БУДЗЕ ЧЫГУНАЧНЫ ПРЫПЫНАК „ХІТРА“?

Жыхары даволі вялікай вёскі **Хітра** (яна налічвае шэсць дзесяткаў дамоў) у Гайнаўскай гміне супольнымі намаганнямі будуюць чыгуначны прыпынак. Яны запланавалі, што першы поезд на шляху Гайнаўка-Бельск-Беласток затрымаецца ў Хітрай сёлета ў ліпені. Дагэтуль у пачыне працавалі яны 7300 гадзін. Вартасць выкананых работ ацэньваецца ў звыш чатыры мільёны злотых. Апрача таго сабралі 400 тысяч злотых складчын ад гаспадароў. Беластоцкі ваявода прадназначыў на гэтую інвестыцыю таксама паўмільёна злотых.

Варта дадаць, што ў пабудове дапамагаюць сялянам з Хітрай, між іншым, кааператыў сельскагаспадарчых гурткоў і надлясніцтва ў Гайнаўцы, ПГР у Новым Беразове.

У Хітрай ужо гатовы фундамент пад вясковую святліцу. За пабудову яе хітраўцы возьмуцца, аднак, у трэцім квартале гэтага года. Цяпер усе думаюць толькі аб тым, каб як найхутчэй мець „свой“ чыгуначны прыпынак. **(яп)**

ратурныя. Цікавяць мяне таксама фатаграфіі, якія ілюструюць гісторыю Беласточчыны і яе сённяшні дзень. З цікавасцю чытаю апошнюю старонку, запоўненую, як вядома, гумарам. Хацелася б на старонках „Нівы“ бачыць большую колькасць прадстаўнікоў беларускай маладой паэзіі.

У цэлым „Ніву“ ўспрымаю як жывы водгалас народнага беларускага жыцця. Цешуся, што на яе старонках з'яўляюцца матэрыялы, звязаныя з Савецкай Беларуссю.

**Пытанне:** Якія вашы, калі так можна сказаць, фінальныя пажаданні?

**Адказ:** Беларускаму таварыству і „Ніве“ жадаю поспехаў у высакароднай дзейнасці на карысць беларускай нацыянальнай меншасці і ўсёй Народнай Польшчы. Сабе жадаю новага візіту ў Польшчы і на Беласточчыне. Справа ў тым, што мы пабывалі толькі на пачатку агляду „Беларуская песня — 87“ у Беластоку. Паклікала нас дарога, і мы не здолелі дагледзець і даслухаць выступленняў да канца. У сувязі з гэтым прагну прыехаць на Беласточчыну зноў, каб да канца даслухаць беларускую песню.

Інтэрв'ю ўзяў
**А. Баршчэўскі**

**(Працяг са стар. 1)**

# ШТО ЧУВАЦЬ У БОЦЬКАХ?

падвоіць ураджайнасць нашых палёў, тады хапіла б збожжа не толькі на ўласныя патрэбы, але асталося б яшчэ шмат яго на продаж за мяжу. Трэба, значыць, выкарыстоўваць уласныя мясцовыя рэзервы.

Для прыкладу возьмем тую ж Боцькаўскую гміну. Сярэдні ўраджай за мінулы, 1986 год, для цэлай гміны вызначаюць тут наступныя паказальнікі: збожжавыя культуры — 26 ц/га; бульба — 220 ц/га; сена — 59 ц/га.

На фоне ваяводскіх дасягненняў за мінулы год гэта не найгоршыя вынікі, знаходзяцца яны недзе ў ліку сярэдніх паказчыкаў для ўсёй Беласточчыны. І сапраўды, Зенан Пухальскі не праяўляе асаблівай заклапочанасці актуальным станам сельскагаспадарчых спраў у сваёй гміне.

— Вось каб не гэты ўсходні раён нашай гміны! — уздыхае ён.

Аказваецца, што і Боцькаўская гміна мае сваю „ўсходнюю сцяну“, якая пагалоўна адстае па ўсіх паказчыках сельскагаспадарчай вытворчасці.

— Гэта вёскі: Снежкі, Малочкі, Быстры, Сасіны, Шашылы, — пералічвае ён. — Гэтыя вёскі ды некаторыя іншыя з усходняй паласы нашай гміны, шчодра папаўняюць Дзяржаўны фонд зямлі, які ў мінулым годзе склаў у нас нейкіх 600 га. З яго ўдалося нам прадаць ледзь 20 гектараў, 17 га аддалі мы ў карыстанне праўленню дзяржаўным лесам. А што з рэштай?

Сапраўды, што з рэштай? Каб быў хлеб, каб было і да хлеба дык трэба араць і сеяць, пасвіць кароў і свіней гадаваць. Без зямлі ўсё гэта, пакуль што, немагчыма. Ніхто іншага спосабу не прыдумаў.

У „заходніх“ вёсках Боцькаўскай гміны цяперашнія нашчадкі колішняй шляхты-грэчкасеяў проста вырываюць сабе з рук кожны кавалак свабоднай зямлі. У міжсуседскім свабодным таварааабароце цана зямлі даходзіць да 120 тысяч злотых за адзін гектар. Начальнік Боцькаўскай гміны, інжынер **Анна Нікіцюк**, гаварыла мне, што за кожны кавалак свабоднай зямлі, які паявіцца ў гэтых „заходніх“ вёсках, змагаецца адразу некалькі гаспадароў.

— Проста маем клопат, каму даць першынство на куплю гэтай зямлі, — кажа пані начальнік. — На жаль, зусім інакш выглядае ва „ўсходніх“ вёсках. Там, практычна, можна бясплатна набыць на ўласнасць парадачную гаспадарку. Палову прадажнай цаны на дзяржаўную зямлю можа зняць начальнік гміны, а на другую палову коштаў банк прадстаўляе спрыяльны крэдыт, які пазней, пасля загаспадарання, можа быць цалкам скасаваны.

— Намагаемся давесці да ведама гэтыя ўмовы на куплю зямлі ўсім сялянам нашай гміны, — кажа Зенан Пухальскі. — На жаль, няма ахвотных, каб перасяліцца ў чужыя вёскі.

А туды, дзе ёсць ахвотныя, зямлі не перанясеш. У суседняй, Нурэцкай гміне, ужо рыхтуюцца да заснавання дзяржаўнай сельскай гаспадаркі, бо там праблема пакінутай зямлі стаіць яшчэ больш востра. Можа тады будучы нурэцкі ПГР пяройме ў загаспадаранне і зямлю з дзяржаўнага фонду ў Боцькаўскай гміне? Толькі да таго часу яшчэ многа вады сплыве ў рэчцы Нурэц.

— У першую чаргу мы надзеемся на энергію маладых гаспадароў, — заявіў мне пан Зенан. — 24 лютага адбылася ў нашай гміне сустрэча з маладымі гаспадарамі. Заахвочвалі мы іх да куплі зямлі...

Адазваўся тэлефон. Званіла начальнік гміны А. Нікіцюк, якая кіруе Боцькаўскай гмінай ужо пяты год. Заявіла яна, што мяне просяць жанчыны, якія з усяе гміны сабраліся ў гмінным асяродку культуры на чарговы курс па грамадска-палітычнай адукацыі.

— Яшчэ хочуць, каб вы ў „Ніве“ пра іх напісалі, — заахвочвала мяне пані начальнік. Ну што ж, прыдзецца напісаць, але ўжо іншым разам.

**Віктар Рудчык**

камітэтаў дапамогі школе, справы пабудовы новых школьных памяшканняў пры ўдзеле грамадскіх пачынаў. Але побач са станоўчымі існуе многа адмоўных з'яў. Бесперапынна ў школьніцтве праводзяцца нікому не патрэбныя, а нават шкодныя эксперыменты. Цяпер абавязваюць праграмы навучання, разлічаныя на самых найздальнейшых дзяцей. Дзеці пераўтвораны ў паддоследных кролікаў, знеахвочваюцца да вучобы, не любяць школы, не хочуць вучыцца. Таксама аграмадныя школы-камбінаты з бесперапынным шумам не спрыяюць добраму навучанню. Да гэтага даходзіць і тое, што сярод настаўнікаў усё менш сапраўдных выхавацеляў. А школьнікі хочуць мець выхавацеляў, а не настаўнікаў-машыны толькі да ўпіхвання ведаў. Ведаў можа навучаць нават камп'ютар, а выхоўваць можа толькі настаўнік.

І іншая справа. ПРОН дамагаецца пакліканне ў Беластоку Падляшскага ўніверсітэта як самастойнай вышэйшай навучальнай установы. Неабходна, каб будаваўся ён з цэнтральнага дзяржаўнага бюджэту. Грамадскім пачынам сабраны грашавы фонд каля 90 мільёнаў злоты — гэта далёка недастаткова.

Справы помнікаў матэрыяльнай культуры таксама былі закрануты на з'ездзе. Асабліва Супрасль моцна дамагаецца кансервацыі манастырскага комплекса будынкаў, адбудовы вядомай супрасльскай Благавешчанскай царквы і катакомбаў, якія нішчэюць, а таксама іншых аб'ектаў.

Прапануецца таксама, каб у будучым палац Браніцкіх, дзе цяпер мае свае памяшканні Медыцынская акадэмія, перадаць для патрэб культуры.

Дэлегаты з'езда прапанавалі, каб ПРОН прычыняўся да ўмацоўвання міру на свеце, да ўмацоўвання ладу і парадку ў краіне, сям'і, да большай апекі над дзяцьмі і людзьмі калекімі, каб заняўся сіратамі, грамадскімі праблемамі маладога пакалення і многімі іншымі справамі, якія хвалююць грамадства.

Выступіць з трыбуны з'езда ўсім жадаючым не хапіла часу і 13 асоб свае выступленні склалі ў сакратарыят з'езда, у іх ліку і прадстаўнікі БГКТ — сакратар ГП БГКТ Віталі Луба і член Прэзідыума Мікалай Бушко.

Удзельнікі з'езда прынялі праграму дзейнасці на бліжэйшыя гады і выказалі сваё становішча ў справах міру на свеце, рэалізацыі канцэпцыі „зялёных лёгкіх“ Польшчы і загаспадаранні зямельных угоддзяў на Беласточчыне.

Выбрана была таксама 140-асабовая Ваяводская рада ПРОНу, якую паўторна ўзначаліў праф. **Пётр Борань**, а яго намеснікамі выбраны: **Ян Важыняк, Веслаў Дамброўскі, Ян Дзюба, Ян Зенюк і Галена Казлоўская.** Функцыю сакратара надалей выконвае **Марак Канапэлька.**

Апрача таго былі выбраны 22 дэлегаты на II Кангрэс ПРОН, у іх ліку вядомы дзяржаўны дзеяч і пісьменнік **Ян Дабрачынскі.**

**Міхась Хмялеўскі**




### „СІНЯВОКАЯ ДАНУСЯ“

Пятніца, рабочы дзень, але ў Трасцянцы, што ў гміне Нарва, гэта надзвычайны дзень. У пятніцы прывозяць сюды, у тутэйшую краму, тавар. Аднаго разу ў такую пятніцу давялося мне пабываць у трасцяніцкай краме (а палова першай гадз.). У краме натоўп людзей, усе чакаюць чагосьці, ніхто нічога не купляе. Ну, проста, вёска на ўвязі горада!

Прадаўшчыца Валя Садоўская паліць у печцы, бо ў краме халадэча. А народ чакае — паслухайце! — тае першай гадзіны, ад якое ўжо можна купіць гарэлкі. Тут я ўпаткаў знаёмых аж з вёскі Белкі. Разгаварыліся, і раптам чую, як Валя камусьці тлумачыць, што... сінявокай Данусі не прывезлі. Што гэта такое? — думаю сабе і пачынаю разглядацца: стаіць малады чалавек з вёскі Сацы, які дапытваецца, а прадаўшчыца гаворыць яму пра якуюсьці Данусю... Каб не нарабіць залішне смеху, я давай распытваць у знаёмых з тых жа Сацоў: якой гэта Данусі ён хоча? А ты не ведаеш? — дзівіліся знаёмыя. Гэта ж дэнатурат. У Сацах п'юць яго, можна сказаць, скрынямі цэлымі! У гэтай вёсцы заявіліся нават патаемкі з дэнатуратам, у якіх, калі хто ўночы купляе, даражэй плаціць, так сказаць, па дагавораных цэнах. І школьнікі бяруць прыклад са сваіх бацькоў, смакуюць „сінявокую Данусю“. Адкуль узялася такая прыгожая назва для такой паскуды як дэнатурат?!

Трэба нешта рабіць, трэба ратаваць Сацы! Трэба, каб улады задумаліся да нейкага спосабу ў гэтай трагічнай справе. Узяць дэнатуршчыкаў на прымусовае лячэнне ад алкагалізму?

**М. Лук'янюк**

### НАБЛІЖАЮЦЦА ПАЛЯВЫЯ РАБОТЫ

У Бельскай гміне, як аб гэтым інфармуе нас кіраўнік аддзела сельскай гаспадаркі Вольга Грыгарук, добра ідзе справа з падрыхтоўкай да палявых работ усіх сельскагаспадарчых машын і прылад, добра таксама з падрыхтоўкай насення і нядрэнна з вапнаваннем глебы.

У бягучым годзе будзе засеяна амаль 8 тыс. га ярыны і пасадзіцца больш за 2 тыс. га бульбы. У гміне параўнальна мала вырошчваецца цукровых буракоў, на бягучы год запланавана толькі 59 га.

Сёлета Бельская гміна ўваходзіць у план аднаўлення бульбы. Ужо восенню было дастаўлена гаспадарам 314 тон насення, а вясною сяляне атрымаюць яшчэ 245 тон. Калі будуць добрыя атмасферныя ўмовы, Бельская гміна, маючы высакаякаснае насенне, павінна сабраць добры ўраджай бульбы.

Як ва ўсёй краіне, так і ў Бельскай гміне адчуваецца востры недахоп азотных мінеральных угнаенняў і сродкаў аховы раслін.

**Міхась Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 1)

# АДЧАРАВАННЕ ПЕРСІДСКІХ ДЫВАНОЎ

(а значыць —' новых інвестыцый) і ад паставак сыравіны.

Фабрыка не мае свае фарбавальні, фарбуе яна сыравіну ў іншых месцах.

— Калі б у нас была свая фарбавальня, — марыць у „Агнелі“, — тады і колеры можна б мець багацейшыя і цікавейшыя і многа клопатаў з плячэй...

На месцы, у Беластоку, прадзецца, тчэцца і выканчваецца дываны. Беластоцкая фабрыка робіць дываны выключна плюшавыя. Гэта рэдкая і высакаякасная тэхналогія. Сыравіна ў іх — сінтэтык і воўна, але з воўны тчэцца мала.



Так выглядае пачатак расцягвання „кудзелі“.

Прадукуе Беласток у асноўным на ўнутраны рынак. (Многія з нас прыгожыя беластоцкія „персы“ маюць у сваіх хатах). Экспарт пакуль што невялікі. Плануецца павялічыць яго.

— Але, — гаворыць галоўны дырэктар Ежы Рабштын, — новаму вытворцу цяжка ўвайсці на замежныя рынкі. Экспартаваць мы пачалі ў 1982 годзе ў Савецкі Саюз, адкуль атрымлівалі тады сыравіну. Але гэта быў і застаўся экспарт невялікай колькасці. Прадаем таксама крыху ў ФРГ і Кувейт.

Калектыў фабрыкі — 1170 чалавек. Калектыў малады — толькі 25 гадоў сярэдні ўзрост. Для многіх тут, у фабрыцы, была іх першая праца пасля школ, у асноўным тэкстыльных.



Канец „кудзелі“.

Фабрыка абсталявана сучаснымі машынамі. На прадзільні ў асноўным машыны польскай прадукцыі, на ткальні стаяць 62 кросны з ГДР і кожнае тчэ адразу два дываны.

Інжынер Крыстына Расінская запрашае нас пабачыць на свае вочы гэты чароўныя харомы, адкуль выходзяць гатовенькія, пушыстыя і каляровыя персідскія дываны, якія можам пакласці на падлогу або павесіць на сцяну ў блёку, каб адгарадзіцца ад халоднага нездаровага бетону.

Найперш бачым горбы (скажам — штучнай) воўны, ужо пафарбаванай. Яна ідзе ў машыну, а з машыны выходзіць ужо счасаная і, звіваючыся роўнымі тоўстымі косамі, кладзецца ў вялікія бочкі. Потым наступае расцягванне (аж тры этапы расцягвання тае касы) і за кожным разам яна ўсё танчэйшая і раўнейшая. У канцы гэтага працэсу маем прыгожую роўненькую коску. Потым на машыне, у якой 120 пунктаў (значыць: 120 нітак адразу) прадзецца нітка. Затым іншая машына дзве ніткі суча ў адну. Далей перавіваюцца тыя ніткі ўжо аўтаматычна на бельгійскіх машынах на спецыяльныя кругелькі, якія пойдуць на ткальню.



Прадзецца нітка.
Перавіванне аўтаматычнае, адзін чалавек абслугоўвае некалькі такіх машын.

На ткальні найперш бачым вялікую снавалку, на якую без удзелу чалавека кладуцца і кладуцца ніткі. (Як бачыце, і ў вялікай фабрыцы ўсё называецца таксама, як у нас у хаце). Са скалькіх нітак складаецца аснова? Гэта залежыць ад планаванай велічыні і гушчыні дывана. Сярэдняя колькасць нітак на асноўным вале — 4.500. Вялікі дыван 3x4 метры патрабуе 7 тысяч нітак. Валы з асновай ідуць на кросны. Гэтых нітак асновы на гатовым дыване не відаць, а ў беластоцкай ткацкай тэрміналогіі яны завуцца прыгожа — „руно“. „Руно“ пераплятаецца ўтком.

Беластоцкая тэхналогія падвойнага ткання вельмі высакаякасная і найлепшая пасля ручнога вязання дываноў. Беластоцкі дыван можаце смела змываць, адпыльваць — яму не пашкодзіць. Мне нават паказалі невялікую пілку для металу з зубцамі з абодвух бакоў, якой найлепш чысціць такі дыван.

Кожны беластоцкі дыван мае пяць колераў, а наогул колераў у фабрыцы ўжываецца больш за 20. Узоры найбольш персідскія, бо і запатрабаванне на іх найбольшае. Уводзяцца і сучасныя: розныя кветкі, палоскі. Такіх дываноў 10 прац. ад агульнай прадукцыі. Усяго беластоцкая фабрыка выткала ўжо дываны 130 узораў.

Каб бліжэй пазнаёміць з узорамі, нас павялі ў майстэрню ўзораў. Тут найперш на аркушах паперы ў дробную клетачку мастакі малююць рознымі колерамі будучыя ўзоры дываноў. Тыя ўзоры на машынцы, падобнай на пішучую, пераносяць, выбіваючы дзірачкі і кідаючы пустыя месцы, на праграмныя карты. Так запраграміраваныя карты сшываюцца і развешваюцца над кроснамі, а там ужо машына-жакард кіруецца тымі картамі, спалучаючы іх з нічальніцамі. Ляскае берда і выплываюць два злучаныя правым бокам дываны, якія аднак нейкі нож адразу разрэзвае: адзін цягнецца ўверх і накручваецца на валок, другі — спаўзае ўніз. Потым дываны рэжуць, абрубляюць, стрыгуць. І гатовы беластоцкі дыван — цудоўны, каляровы, як з чарадзейнай усходняй казкі, вісіць перад намі — персідскі беластоцкі дыван.



Аснова ідзе ў нічальніцы.

Галоўны праекціроўшчык фабрыкі — Галіна Пшыбылка-Малкоўская паказала альбомы ўзораў, якія яны выткалі. Там я знайшла і ўзор майго, на зялёным фоне, „перса“. Але гледзячы толькі на гэтыя малыя картачкі ўзораў, усё ж цяжка паверыць, што такое цуда можна зрабіць фабрычна. Каб не бачыла — не паверыла б.

А пабачыць можна. Мяне паінфармавала пані Юстына Сітнік, што па дазволу дырэктара фабрыку можа наведаць, напрыклад, школьная экскурсія. Такія экскурсіі яны прымаюць. Падумалася, што асабліва вясковым школам экскурсія ў такую фабрыку ў вялікім горадзе была б значнай падзеяй і дасканалым урокам. Не толькі варта, але і трэба хацець пабачыць такія фабрыкі і такую вытворчасць нашай прамысловасці.

**Вера Валкавыцкая**

Фота Мар'юш Алькоўскі



Гатовы беластоцкі персідскі дыван.

**СЯБРЫНА**

# РАЗВАРУШЫЦЬ КАМПАНІЮ

Размова з Данкай Мароз, намеснікам старшыні Рады студэнтаў беларускай і літоўскай нацыянальнасцей.

**Міра:** Данка, што ты робіш?

**Данка:** Думаю, што кожны, калі яго запытаеш, што ён робіць, спачатку засаромікца, а пасля будзе адказваць вельмі агульна або зусім нічога не скажа. Для мяне гэта таксама клапатлівае пытанне. Пакуль што, магу толькі сказаць, што я не пасіўная і частка маёй дзейнасці датычыць не толькі маіх асабістых спраў.

Нялёгка таксама прадбачыць будучыню. Ведаю, што я хацела б мець столькі часу, каб магчы заняца, апрача сямейнага жыцця, яшчэ справамі больш агульнымі. Канкрэтна не буду гаварыць, таму што заўсёды непрыемнае ўражанне рабіла на мне галаслоўнасць.

**М.:** Ты вучылася ў Гайнаўскім беларускім ліцэі...

**Д.:** Паходжу я з ваколіц Семяноўкі, хаця дзіцём і падлёткам я жыла ў Гайнаўцы. Да людзей, якія жывуць на зямлі, адкуль я і мае бацькі, я маю вялікую пашану. Большасць з іх не закончыла вялікіх школ, аднак гэта не сведчыць аб іх малой вартасці. Пераважная большасць з іх — гэта сяляне з дзеда-прадзеда, улюбёныя ў зямлю і працу. Гэта людзі цвёрдыя, без сентыментаў, але адначасова з вялікім пачуццём нацыянальнай свядомасці. Хачу дадаць, што далёка мне да іх, і хацела б я выхаваць у сабе такія рысы характару.



**М.:** Ці хацела б ты вярнуцца туды працаваць пасля сваёй культурна-асветнай педагогікі?

**Д.:** Так складаецца, што пакуль няма там такой установы, у якой я запланавала працаваць. Хачу, аднак, звязаць сваю грамадскую дзейнасць з зямлёй бацькоў.

**М.:** Якая цяпер моладзь?

**Д.:** У апошні час моладзь адхілілася ад больш агульных праблем, стала менш грамадска актыўнай і быццам больш зацікавілася асабістымі справамі. Цяжка яе змабілізаваць нават да прыняцця ўдзелу ў якіх-небудзь мерапрыемствах, не кажучы ўжо пра творчую дзейнасць. У апошні час асноўная мая мара — разварушыць трохі гэтую кампанію.

**М.:** Чаго чакаеш ад людзей, ад сяброў з Рады?

**Д.:** Большага зацікаўлення тым, што ім прапануецца, і дапамогі. Я сама нічога практычна не магу. Аб сваіх прапановах на будучыню, дазволь, пакуль не буду гаварыць.

**М.:** Гэта будзе тэма на з'езд беларускіх студэнтаў, пагаворым у Бельску. А цяпер пытанне вельмі ж асабістае...

**Д.:** Я бачу, што твая цікавасць зусім не малая! Каго хацела б мець я пры сваім баку цэлае жыццё, праўда? Мой адказ — таго, хто на столькі адважны і падняўся б такога ц я ж а р у!

**Гутарыла Міра Лукша**

**З СУДА**

# ДВА БРАТЫ -ДВА ЗЛАДЗЕІ



Жылі-былі два родныя браты — Мірослаў і Багдан. І абодва зладзеі. Гэта вядома. Але дзе жылі, дык і суд аб гэтым маўчыць. Вядома затое, як жылі. Абодва былі аматарамі лёгкай нажывы. Кралі ўсё, што трапілася і дзе трапілася. Камбінавалі, як маглі і як удавалася. Нават рашылі разбагацець на прадукцыі наркаманскага кампоту з макавай саломы. Калі знаёмішся з пералікам іх злачынных вылазак, дык проста не хочацца верыць; што чалавек да гэтай ступені можа затраціць усялякія маральныя нормы...

Аднак вернемся да канкрэтных фактаў. Першы факт бясспрэчны: яны абодва яшчэ маладыя людзі. І розніца ва ўзросце ў іх невялікая. Міраславу 28 гадоў жыцця, а Багдану толькі на год болей. Значыць, гэта свядомыя людзі, якім добра вядомы прынцыпы грамадзянскага сужыцця. Да пары, аднак, збан ваду носіць, а чужая крыўда найчасцей бокам вылазіць. Мірослаў вывучыўся на шафёра-механіка, любіў аўтамабілі, ганяўся на іх па ўсёй Польшчы. Багдан таксама не засіджваўся. І абодва проста плявалі на агульнапрынятыя ў грамадстве нормы паводзін і зносін людзей.

Накрадзенае Міраславам дабро судовыя эксперты палічылі на звыш 4 мільёнаў злотых. Устаноўлены два перыяды яго зладзейскай актыўнасці. Абодва нянадта ж доўгія. Першы ад 27 верасня 1984 г. да 14 лістапада 1985 г. Наведаў ён тады Апольскае, Жэшаўскае, Чэнстахоўскае і, вядома, сваё, Беластоцкае, ваяводствы. А сябрукі, ахвотныя дапамагчы яму ў гэтай дзейнасці, заўжды знаходзіліся, бо Мірослаў не скупіўся. Як трэба было пераехаць з ваяводства ў ваяводства, або хуценька перакінуць недзе ў бяспечны тайнік накрадзены тавар, дык ён доўга не шукаў сродкаў транспарту. Заводзіў першы сустрэчны, пакінуты на стаянцы аўтамабіль ды імчаўся. Не кожнаму гэта ўдалося б, але Мірослаў быў жа шафёрам-механікам і аўтамабільны рухавік ведаў, як уласнае зладзейскае сумленне. Вось тады, за гэты першы перыяд, накраў ён на суму 3.801.910 зл.

І вуха абарвалася... Яго прымкнулі і незадоўга засудзілі на 8 гадоў турмы. Міраславу, аднак, удалося ўцячы і з-пад арышту. Ад студзеня да лістапада 1985 года ён зноў гуляў на свабодзе і зноў цягаў чужое дабро. На гэты раз вартасцю ў 536.560 зл.

Яго крыху старэйшы брат, Багдан, не адзначаўся такой ненасытнасцю. Пракурор абвінавачваў яго ва ўзломе на 177 тысяч зл. Было гэта 1 верасня 1985 года. Багдан наведаў горад Ланцут, што на Жэшаўшчыне. Аднак не цікавіў яго Ланцуцкі замак з каштоўнай калекцыяй магнацкіх конных павозак, ані канцэрты камеральнай музыкі. Ён са сваімі сябрамі накіраваўся ў звычайны гандлёвы павільён з радыётэхнічнымі таварамі. Крама, праўда, была ўжо афіцыйна закрыта, але гэта Багдан не лічыў перашкодай. Яго зацікаўленне спынілася на стэрэафанічнай калонцы, вартасцю ў 177 тысяч зл. На дабавак гэты ж Багдан ахвотна дапамагаў свайму малодшаму брату Міраславу ў перапрацоўцы макавай саломы. Аказваецца, што гэта цяпер таксама прыбыльны „бізнес".

На шчасце, міліцыя мае свае спосабы на спыненне гэтакай зладзейскай дзейнасці. Рана ці позна кожны злодзей будзе захапляцца сонцам толькі цераз краты.

Судовы разбор справы абодвух братоў адбыўся ў Ваяводскім судзе ў Беластоку (II карная палата) 16 студзеня 1987 года. Міраславу суд вызначыў 12-гадовае пакаранне і гэты прыгавор ужо правамоцны і канчатковы. Значыць, уся яго маладосць сыдзе ў турэмнай ізаляцыі. Выйдзе ён на свабоду ўжо 40-гадовым мужчынам.

Да брата Багдана суд аднёсся болей ільготна, адпраўляючы яго ледзь на тры гады за краты. Хаця, калі ўдумацца... тры гады за адну калонку вартасцю ў 177 тысяч злотых, якімі давялося яшчэ падзяліцца з „кумплямі"... Ці гэта не дастаткова, каб болей ужо адхацелася яму злачынных вылазак?

**Судамір Параграфчык**

**ВЫКАЗВАННІ**

**Д. С. ЛІХАЧОЎ**

**Сумленне і гонар**

Совесть подсказывает. Честь действует. Совесть всегда исходит из глубины души, и совестью в той или иной мере человек очищается. Совесть „грызет". Совесть не бывает ложной. Она бывает приглушенной или слишком преувеличенной (крайне редко). Но представления о чести бывают совершенно ложными, и эти ложные представления наносят колоссальный ущерб обществу. Я имею в виду то, что называется „честью мундира". У нас исчезли такие несвойственные нашему обществу понятия, как, скажем, дворянская честь, но „честь мундира" остается. Точно человек умер, а остался мундир, с которого сняты ордена и внутри которого уже не бьется совестливое сердце. „Честь мундира" заставляет руководителей отстаивать ложные или порочные проекты, настаивать на продолжении явно неудачных строек, бороться с охраняющими памятники людьми („наша стройка важнее") и т.д.

Честь истинная — всегда в соответствии с совестью. Честь ложная — мираж в пустыне, в нравственной пустыне человеческой (вернее — чиновничьей) души. И мираж вредный, созидающий ложные цели, ведущий к расточительству, а иногда и к гибели подлинных ценностей.

Поэтому честь должна быть в гармонии с совестью. Честь и совесть надо рассматривать не только в плане личных отношений, но и в государственном масштабе. Если человек совершает добрые поступки, как это часто бывает, не за свой счет, а за счет государства, то это уже не доброта, не бескорыстие, а делячество и хитрость.

В чем выражается внутренняя честь? В том, что человек держит слово. И как официальное лицо, и просто как человек. Ведет себя порядочно — не нарушает этических норм, соблюдает достоинство, не пресмыкается перед начальством, перед любым „благо-дающим", не подлаживается к чужому мнению, не упрямится, чтобы доказать свою правоту, не сводит личные счеты, не расплачивается с нужными людьми за счет государства различными поблажками, устройством на работу нужных людей и так далее. Вообще умеет отличать личное от государственного, суб'ективное от обьективного в оценке окружающего.

Честь — это достоинство нравственно живущего человека.

**ПРЫКАЗКІ**

Дагавор даражэй за грошы.

*

Дзе сіла не бярэ, трэба розумам надтачыць.

*

За аднаго вучанага дзесяць нявучаных даюць, і то не бяруць.

*

З вялікага розуму часам дурнеюць.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЧАКАЮЧЫ НА НОВУЮ ШКОЛУ

Наваkорнінская пачатковая школа жыве надзеяй хуткага перасялення ў новы, вялікі, прасторны будынак. Умовы працы ў старой школе вельмі цяжкія і для настаўнікаў, і для вучняў. Нягледзячы на гэта, аднак, школа ў жыцці вёскі і ваколіцы мае вялікае значэнне. Як сказаў дырэктар Канстанцін Лапінскі „школа моцна ўрасла ў асяроддзе". Усе вясковыя нагоды і святы школа выкарыстоўвае, каб прыслужыцца вёсцы. Вось навагоднюю ёлку яны арганізавалі ў вясковым клубе — гэта было проста свята ўсёе вёскі. Таксама ўрачыста і багата было адзначана 20-годдзе вясковай пажарнай стражы. На ўсіх урачыстасцях выступалі вучні з праграмай — песнямі, вершамі, беларускімі і польскімі. Людзі ахвотна прыходзяць на ўсе мерапрыемствы, якія арганізуе школа.

Рыхтавацца да чарговай праграмы вучні застаюцца пасля ўрокаў і працуюць цяпер з настаўніцай беларускай мовы Аннай Гаўрылюк. Многа вершаў бяруць з „Нівы" і „Зоркі". Асабліва дзяўчаты ахвотна прымаюць удзел у мастацкай самадзейнасці. Яны вялікія ахвотніцы спяваць песні. Хлопцы ж больш ахвотна дэкламуюць вершы.

Новая школа ў Новым Корніне мае быць гатовай прыняць сваіх вучняў у 1988 г. Будзе гэта сапраўдная сучасная школа. Апрача 8 класаў, тут будзе дэнтыстычны кабінет для дзяцей (даступны і людзям з вёскі), фізкультурная зала, бібліятэка, сталовая на сто асоб.

Моцная гарцэрская дружына працуе ў школе. У мінулым годзе гарцэры ездзілі на злёт, маюць узнагароды за працу. Памагаюць старым. Адзін прыклад.

(Працяг на стар. 10)



Гэты здымак будзе бадай апошнім, які мы зрабілі на парозе старой школы ў Новым Корніне. Значыць, — ён памятны. Побач хутка расце новая школа.

## ДЗЯКУЕМ СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

**Вершы Станіслава Шушкевіча „Зорка" друкуе часта. Нашы дзеці іх вельмі любяць чытаць і дэкламаваць.**

**Сёння „Зорка" хоча паведаміць настаўнікаў беларускай мовы і ўсіх вучняў, што ад паэта зноў атрымала па пошце два зборнікі яго вершаў. „Едзе страшная яга" і „Казёл на вертале́це" — гэты апошні выдадзены ў 1987 годзе.**

**Вельмі цешымся, што паэт памятае пра „Зорку". Сардэчнае беларускае дзякуй вам, Станіслаў Шушкевіч!**

**„Зорка" будзе друкаваць для вас, дарагія дзеці, вершы з прысланых зборнікаў.**



## ХОЧАШ У КОСМАС?

Дзень касманаўтыкі. Гэтае свята пачалося нядаўна — 12 сакавіка 1961 г. Ведаеце, што сталася ў гэты дзень? Падумайце! Так. Першы чалавек паляцеў у Космас! А быў ім Юрый Гагарын — грамадзянін Савецкага Саюза, які на касмічным караблі „Восток" абляцеў усю зямлю і шчасліва спусціўся. Так адкрылася дарога ў Космас. Юрый Гагарын лётаў у Космасе 108 мінут. У тым жа годзе Г. Цітоў быў у Космасе 25 гадзін. Цяпер савецкія касманаўты жывуць і працуюць у Космасе на вельмі скамплікаваных касмічных станцыях цэлыя месяцы.




12 сакавіка стаў святам касманаўтыкі, тым днём, калі чалавек пасябраваў з Космасам. Прыдзе дзень, калі можа і вы, цяпер вучні пачатковай школы, сядзеце ў ракету і паляціце ў Космас. Усё магчыма. Чалавечаму Розуму няма граніц. І Гагарын, і ўсе іншыя касманаўты, пачыналі так як і вы — ад першага класа, ад буквара, ад няўмелага пісання першай літаркі і першай лічбы, ад вельмі простага задання: колькі будзе 1 дадаць 1?

Цікава, ці хто з вас марыць стаць касманаўтам? (вв)

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Станіслаў Шушкевіч

### КРЫКЛІЎЦЫ І СПЕВАКІ

**Прыляцеў на поплаў д р а ч,**
**А ў дуброву с о й к а,**
**На выгарышча к р у м к а ч —**
**Вось крыклівых тройка.**

**Зацвітаюць сад і гай,**
**Бо вясна наўкола,**
**Спеў ляціць за небакрай**
**Спевакоў вясёлых.**

**Хто ж яны? Ды гэта д р о з д,**
**С а л а в е й, с і н і ц а.**
**Спеў маленькіх навырост**
**Будзе доўга ліцца.**

**Аж замрэ, прыціхне лес —**
**Так іх люба слухаць.**
**Схіліць наквецъ белы бэз,**
**Знікне сум і скруха.**



## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Авяр'ян Дзяружынскі

### КУЮ-КУЮ НОЖКУ

**Кую-кую ножку,**
**Паеду ў дарожку,**
**Куплю чаравічкі,**
**Куплю невялічкі,**
**На быструю ножку —**
**Малому Цімошку.**

**Вось і чаравічкі,**
**Вось і невялічкі,**
**Шоўкам вышываныя,**
**Фарбай маляваныя.**

**Як ні прымяралі,**
**Як ні абувалі,**
**Не лезуць**
**На ножку**
**Малому Цімошку.**

**Абувала**
**Цімошку**
**Бабуля —**
**Не абула.**
**Абувала**
**Цімошку**
**Матуля —**
**Не абула.**
**Прыляцелі**
**Птушкі-гулі**
**І ўраз хлопчыка**
**Абулі.**

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**



## ПАЛЫМЯНЫ ЗМАГАР

Кастусь Каліноўскі (1839-1864) нарадзіўся ў фальварку Мастаўляны каля Ялоўкі на Беласточчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў Свіслачы вучыўся ён у Маскоўскім і Пецярбургскім універсітэтах. Там прымаў удзел у працы нелегальных гурткоў рускіх і польскіх рэвалюцыянераў.

Скончыўшы універсітэт, Каліноўскі вярнуўся на Радзіму і прыступіў да падрыхтоўкі народнага паўстання, накіраванага супраць царызму і памешчыкаў. Разам са сваім сябрам, польскім рэвалюцыянерам Валерыем Врублеўскім у 1862-1863 гадах у Беластоку патаемна выдаў першую газету на беларускай мове „Мужыцкая праўда". Газета растлумачвала чытачам варожыя адносіны царскага ўрада і памешчыкаў да працоўнага люду, навучала, як трэба рыхтавацца да паўстання.

У 1863 годзе Кастусь Каліноўскі ўзначаліў народнае паўстанне ў Беларусі і Літве. Потым кіраваў утвораным паўстанцамі нелегальным „Чырвоным урадам". Ён наведваў паўстанцкія атрады, пісаў палымяныя адозвы да беларускага народа, выступаў з прамовамі, заахвочваў паўстанцаў ахвярна змагацца за свабоду і зямлю для працоўных. Будучыню беларускага народа бачыў у еднасці з вольнымі ад царскага і памешчыцкага прыгнёту рускім і польскім народамі.

Царскім уладам удалося арыштаваць Кастуся Каліноўскага. Загінуў ён на шыбеніцы ў 1864 годзе ў Вільні.

*1. Калі і дзе нарадзіўся Кастусь Каліноўскі?*
*2. Дзе ён вучыўся і пазнаёміўся з рэвалюцыйным рухам?*
*3. З кім і дзе выдаваў Каліноўскі „Мужыцкую праўду"?*
*4. На якой мове выдавалася „Мужыцкая праўда" і што растлумачвала чытачам?*
*5. Раскажыце пра ўдзел Каліноўскага ў паўстанні 1863 года ў Беларусі і на Літве.*
*6. Дзе і калі загінуў Кастусь Каліноўскі?*

### КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ
**Урывак з паэмы**

Там, дзе слаў вецер ніў залатых абрусы,
За шырокім сталом хмеліў мёд галасы.
Абысці гэты стол — праляцелі б гады —
Як жа ўспомніць усіх дзецюкоў маладых?
Як жа ўспомніць, з кім лётаў свабодны і дужы?
Толькі глянь, колькі кружыцца птушак
Над маёй галавой!
І як злічым над Нёманам,
над быстрай Дзвіной?
Маю шапку я — сіняе неба.
Шубу — лесу зялёнага цень,
А зямлі — сонца нат не абыйдзе за дзень.
І нямала чырвонцаў, багацця:
На папялішчах панскіх,
магнацкіх палацаў,
Як дыхне толькі вецер — жар,
як той самацвет, —
Не адзін бы сёння насыпаў кісет..."

*

Прыдуць дні, аб якіх вякі варажылі,
Пра якія ў казках адно гаварылі:
Дзе задумаў, — свабодна пайшоў,
Ні равоў, ні гранічных капцоў.

**Максім Танк**

*1. Растлумачце, як вы разумееце наступныя радкі:*

1) Маю шапку я — сіняе неба.
Шубу — лесу зялёнага цень,
А зямлі — сонца нат не
абыйдзе за дзень.

*2. Прачытайце частку ўрыўка ад слоў: Прыдуць дні..." і падрабязней раскажыце, да чаго імкнуліся паўстанцы на чале з Каліноўскім.*

### У НАРАЎЦЫ ПАД МАСТОМ

У Нараўцы, на рацэ, пад мостам, ёсць плаціна, ля якой знаходзіцца невялікі вадапад. Ён марозу не дае скаваць раку лёдам. Ужо ў снежні пра гэтае месца даведаліся дзікія качкі. І хоць мост і рака ў самым цэнтры Нараўкі, побач аўтобуснага прыпынку, рэстарана, дзе заўсёды людна, аднак дзікія качкі, ратуючыся ад голаду і холаду, прывыклі да незвычайных умоў.

І з вялікай штодзённай дапамогай паспяшаўся ім жыхар Нараўкі Ян Казёл. Гэты пажылы чалавек усю зімку, дзень у дзень, саначкамі прывозіў корм на рэчку пад мост. Там яго ўжо чакалі галодныя птушкі. І хоць кажуць, што птушкі мовай не карыстаюцца, аднак весткі аб добрым чалавеку разышліся далёка і з кожным днём чарада дзікіх качак павялічвалася. У канцы зімы Ян Казёл падкормліваў некалькі дзесяткаў птушак.

Нараўчанскія паляўнічыя пазіралі на гэта і толькі паціралі рукі ды ўсміхаліся пад носам: „Улетку будзе на каго паляваць".

Ян Казёл не паляўнічы, але ў яго сапраўдная людская душа. Яго дабрыня і спагадлівасць, гуманітарныя адносіны да прыроды, павінны стаць прыкладам усім. Ён сапраўдны прыяцель прыроды. (Ю.Н.)

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"

Пішуць Табе вучні трэцяга класа са школы ў Храбалах. У нашым класе 12 вучняў, з таго 10 вывучае беларускую мову (усе беларусы).

Вучымся мы па-рознаму. Лепшыя вучні ў класе — гэта: Эля Врублеўская, Анэта Філіманюк, Пеця Федарук і Багуся Бароўская.

Беларускую мову ў нас вядзе настаўніца Ірына Ефімюк. Мы на ўроках беларускай мовы чытаем „Вясёлку", „Зорку" і апавяданні з кніжак. Усе ўрокі цікавыя. На ўроках мы таксама пішам і рысуем. Нядаўна рысавалі ілюстрацыі да апавядання з „Зоркі" пра лесавічка з Логавага луга. Адзін малюнак высылаем Табе.

З прывітаннем

**вучні III класа школы ў Храбалах**



**Мал. Анэты Філіманюк.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"

Пішуць Табе вучні трэцяга і чацвертага класаў школы ў Старым Корніне. 6 сакавіка мы святкавалі ў школе Міжнародны жаночы дзень. Хлопцы віншавалі дзяўчат і настаўніц з гэтым святам. Падрыхтавалі вершы і песні. Настаўніцам уручылі кветкі, а дзяўчатам — падарункі.

10-га сакавіка дзяўчынкі склалі найлепшыя пажаданні настаўнікам-мужчынам і хлопцам.

„Зорачка", пасылаем і Табе найлепшыя пажаданні і запрашаем да нас.

**Вучні трэцяга і чацвертага класаў школы ў Старым Корніне.**

(Працяг са стар. 9)

### ЧАКАЮЧЫ НА НОВУЮ ШКОЛУ

Далёка за вёскай у полі жыве старая Параска Фірс. Школьнікі заўсёды купляюць ёй важнейшыя рэчы, прыносяць у хату, парадкуюць панадворак і хату, прыносяць ваду. Увосень выкапалі ёй бульбу, якую выараў Канстанцін Салавянюк бацька вучня 6-га класа.

Зуховую дружыну, якая складаецца з 19 дзетак, вядуць вучаніцы 8-га класа Аня і Агнешка. Яны арганізуюць з малымі розныя гульні. (вв)

Фота Я. Чэрнякевіч



**Новая школа ва ўсёй сваёй будаўлянай красе.**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




**Словы, што напісаны на рассыпаных пялёстках, вы зможаце прачытаць, калі акуратна выражаце пялёсткі і складзеце з іх кветку. Якія ж гэта словы?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## ЛЮДЗІ СІЛ НЕ ШКАДУЮЦЬ

Нямала будзе каштаваць новая школа, якая будуецца ў вёсцы Новы Корнін у Гайнаўскай гміне. Будуецца хутка і пры выдатнай дапамозе насельніцтва, якое абавязалася ўнесці свае 30 працэнтаў коштаў пабудовы. Ужо вырабілі чынам 2 млн. 665 тыс. зл. (капалі, вазілі зямлю і жвір, прывозілі будаўнічыя матэрыялы з цагельні ў Ляўкове, грузілі і выгружалі іх). 20 тон цэглы купілі нават за свае грошы. Добраахвотныя складчыны жыхароў вёскі склалі ўжо 100 тысяч зл.

На пачын прыходзілі групы па 35-50 чалавек. Гаспадары давалі свае трактары з прычэпамі і самі вазілі, што трэба было.

Вельмі многа і цяжка працаваў вясковы камітэт пабудовы школы. Старшыня бацькоўскага камітэта школы Мікалай Раманюк з Новага Корніна сам адзін выпрацаваў 20 тысяч зл. Уласным трактарам ездзіў па цэмент, жвір, у лес.

Сябе і свае трактары аддалі справе і Аляксей Астапчук, Мікалай Сэльвеструк, Уладзіслаў Сапежка (былы старшыня бацькоўскага камітэта) — усе таксама з Новага Корніна.

Грошы збіраюцца, дзе можна і ад усіх. 400 тысяч даў гмінны фонд развіцця сельскай гаспадаркі, 40 тысяч (з прызначэннем на музычныя інструменты) дала вясковая (салэцкая) рада. Школьнікі сабралі 3500 зл.

Ужо звезены ўсе патрэбныя будаўнічыя матэрыялы. Гатовая нават поўная сталярка, якую зрабіла спулдзельня будаўляная „Чын" у Гайнаўцы. **(вв)**

## САМІ САБЕ

Жыхары **Шудзялаўскай** гміны пачалі ў грамадскім пачыне пабудову двух рамізаў для дзейнасці добраахвотных супрацьпажарных камандаў у вёсках **Вярхлессе** і **Зубрыца Вялікая,** а таксама пабудову гандлёвага павільёна і школы ў **Шудзялаве.**

Жыхары Шудзялаўскай гміны — людзі актыўныя і працавітыя. Калі ўжо што-небудзь задумаюць, дык справу даводзяць да канца. Калі трэба, то працуюць дружна і спорна. Усе добра ведаюць, што гэтыя аб'екты будуць служыць для ўсіх.

**(яц)**

## У БГКТ

22 красавіка г.г. а 10-й гадзіне вучні Бельскага беларускага ліцэя сустрэнуцца з заслужаным дзеячом БГКТ і шматгадовым старшынёй Ваяводскага суда ў Беластоку мгр. Вінцуком Склубоўскім.




**Bielsk Podl.** Ballada o żołnierzu — radz. 12—14. Strefa graniczna — radz. 15—17. Dramatyczny lot — rum. 18—19.

**Czeremcha** Buntowniczy „Orion" — radz. 15. Ballada o Narayamie — jap. 18—19.

**Czyże** Mniejszy szuka dużego — pol. Samosąd — bułg. 15—19.

**Hajnówka** Gramliny rozrabiają — USA 13—17. Kochana — radz. 16—19.

**Michałowo** Po co człowiekowi skrzydła — radz. 14—16. Christine — USA 17—19.

**Mielnik** Ucieczka w noc — USA 15—16. Carmen — fr. 18—19.

**Milejczyce** Brylanty pani Zuzy — pol. Ptaki ptakom — pol. 15—19.

**Orla** Idź i patrz — radz. Mój kochany mąż i ja — NRD 15—19.

**Nurzec** Prom do Szwecji — pol. 16—17. Godzina szczytu — pol. 18—19.

# ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

| Дзень | Стыль | | Святы, імяніны | | Сонца | Месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | новы | стары | | | усх.-зах. | усх.-зах. |
| **нядзеля** | **12** | **30** | **Пальмовая, Віктара** | **Вербная. Іаана** | **5.46-19.28** | **6.44-23.29** |
| панядзелак | 13 | 31 | Герменегільды | Іпацiя, Апалонія | 5.44-19.30 | 7.04-0.41 |
| аўторак | 14 | 1 | Юстыны, Валерыяна | Марыі, Яўфімія | 5.42-19.32 | 7.34-1.00 |
| серада | 15 | 2 | Анастасіі, Базыля | Ціта, Палікарпа | 5.40-19.34 | 8.14-1.45 |
| чацвер | 16 | 3 | Юліі, Ксеніі | Мікіты, Нектарыя | 5.37-19.35 | 9.08-2.38 |
| пятніца | 17 | 4 | Роберта, Рудальфа | Іосіфа, Георгія | 5.35-19.37 | 10.15-3.18 |
| субота | 18 | 5 | Апалонія, Аліцыі | Фядоры, Платона | 5.33-19.39 | 11.31-3.31 |

## ГАДАВІНЫ

**535 год таму назад**

15.4.1452 г. нар. італьянскі жывапісец, скульптар, архітэктар, інжынер, вучоны Леанарда да Вінчы (пам. 2.5.1519 г.), самы славутыя яго карціны: „Благавешчанне" (каля 1477), „Пакланенне вешчуноў" (1481), „Мадонна ў скалах" (1483), „Тайная вячэра" (1497), „Джаконда" (1503) і інш.

**100 год таму назад**

18.4.1887 г. нар. беларускі пісьменнік-сатырык Анатоль Дзяркач (сапраўднае прозвішча Анатоль Змiёнка, загінуў у 1937 г.), друкавацца пачаў у 1904 г., найбольш вядома паэма „Міколкава гаспадарка" (1927), шмат пісаў для дзяцей.

**85 год таму назад**

15.4.1902 г. нар. беларускі пісьменнік Мікола Нікановіч (загінуў на фронце ў 1944 г.), друкавацца пачаў у 1925 г., першыя зборнікі апавяданняў „Золак" і „Радасць" (1926).

**50 год таму назад**

12.4.1937 г. нар. беларускі графік Яўген Пакаташкін, працы: „У атаку", „Глыток вады" (1961), „Сакавік" (1966), „Вясна, Гомель" (1970).

## НАША ПОШТА

**Моладзь з Катлоў.** Ліст, так падпісаны ад імя моладзі гэтай мясцовасці, атрымалі мы. І хоць ён вельмі канкрэтны, датычыць тутэйшага клуба, у якім і брудна і смутна і няма чаго рабіць, аднак не можам надрукаваць яго. Гэта ж, па-праўдзе кажучы, ананімка, а ананімак не друкуем, нават нягледзячы на тое, што могуць яны быць справядлівымі. Справа простая: брыдка гаварыць пра кагосьці — пра тое, што Валя Сідарук занядбалася — самому застаючыся ў тайніцы, як бы за вуглом схаваўшыся...

## ПАПРАЦУЙМА НА МУЗЕЙ!

Будзе вялікі пачын на Пасталове. Яго арганізуе вядомы мастацкі калектыў „Дубіны" разам з Раёнам дзяржаўных лясоў.

Будзем садзіць лес, парадкаваць яго і рабіць усе іншыя патрэбныя працы ў лесе. Надлясніцтва „Пасталова" забяспечвае транспартам, саджанцамі і прыладамі працы.

Пачын адбудзецца ў вольную суботу — 2 мая. Збіраемся каля святліцы ў Дубінах у 7 гадзін раніцы (даезд з Гайнаўкі гарадскім аўтобусам нумар 2). Званіць у гэтай справе можна: кірунковы з Беластока — 059, у Гайнаўцы — 2041 і прасіць Дубіны-8.

Мы, маладыя з Дубіноў, кіруем гэты заклік да маладых Гайнаўкі і ваколіц: давайце з'едземся, давайце папрацуем, зробім і заробім. Заробленыя грошы аддамо на Беларускі музей.

Калі нам удасца наша задума, то звернемся з новым заклікам да ўсёй нашай моладзі, каб прыступіла да падобных пачынаў, а грошы за іх прызначыла на музей.

**З прывітаннем — Дубіны.**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217 1922 132

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018 24325 151 6787.

Спісак чарговых ахвяравальнікаў:

**645. Раённае меліярацыйнае прадпрыемства ў Беластоку — 2000 зл.**
**646. ВЗСР „Сялянская самапомач", Прадпрыемства інвестыцый і будаўніцтва ў Беластоку, будаўніча-мантажнае аддзяленне ў Гайнаўцы — 15000 зл.**
**647. Ян Кірылюк (Гайнаўка) — 500 зл.**
**648. Аркадзій Самойлік (Гайнаўка) — 500 зл.**
**649. Пётр Хомчык (Гайнаўка) — 500 зл.**
**650. Віталій Луба (Беласток) — 1200 зл.**
**651. Управа горада Гайнаўкі — 9220 зл.**

Дзякуем.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках гміна Міхалова.
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы.
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54.
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6.
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах.
у Саколцы, вуліца Варынскага 1.
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6.**

Тэлефон 28-89.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**З нашага краю квяцістага • Алесь Барскі аб сардэчнасці • Без учарашняга няма сённяшняга • I З'езд беларускіх студэнтаў • Салтысоўскі сход • Сябрына • Адгалоскі • Дзяржаўная беларуска-руская гімназія ў Беластоку • Ад Гедыміна да Нектарыя • Лісліваць і сімвалы • Беларускі фальклор • Беларуская кухня • Соннік • „Зорка" • Што-дзе-калі • Гумар**


# Ніва

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў:** Вера Валкавыцкая, **Георгій** Валкавыцкі (галоўны рэдактар), **Мікалай Гайдук** (намеснік галоўнага рэдактара), Валянціна **Жэшка** (карэктар), Міраслава Лукша, **Яўгенія** Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), **Уладзіслаў** Петрук (мастак), **Віктар Рудчык**, Марыя Федарук (машыністка), Міхал Хмялеўскі, Яніна Чэрнякевіч, Ада Чэчуга (сакратар рэдакцыі), **Сакрат** Яновіч (тэхнічны рэдактар).

### АДРАС РЭДАКЦЫІ

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 156 zł; półr. 312 zł, rocznej 624 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy.
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach, w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach;
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   — osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
   — osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
— do dnia 10 listopada na I kwartał i półrocze roku następnego oraz cały rok następny;
— do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bież.

Zam. 522/87 r. Nakład 5000. W-3.

З суседскага агародчыка

## УЛАС „ПЕРАБУДАВАЎСЯ“

*(З падслуханай размовы)*

— Чуў, Улас, што ты цяпер
Старшынюеш дома.
Перамена для цябе
Добрая, вядома.

Раскажы ж, дружбак Улас,
Як з перабудовай?
Як мацуеш свой калгас
Ты пры ўладзе новай?

— Ды нішто сабе, Панас,
Не набедаваўся.
Кажуць трэба!
І я ўраз
Перабудаваўся.

Пад дажджом і так не мок.
Пакумекаў трохі,
Потым свой збурыў дамок
І — катэдж адгрохаў.

Ўсе кругом:
Пачні з сябе!..
І пачаў, раз трэба.
З цэглы маю дом цяпер,
Ну а быў жа — з дрэва.

— Во даеш! — гукнуў Панас,
Не схаваў здзіўлення. —
Ну, а як жа ты у нас
Ладзіш з паскарэннем?

— Я і з гэтым — будзь здароў! —
Разабраўся жыва:
Так „паскорыў“ муляроў —
За тры дні зляжылі...

**Вячаслаў Рагойша**




# НУКА



Без слоў.

## КОНКУРС

У конкурсе на чысціню пераможцам нечакана выйшла ануча. У сенцах успыхнула спрэчка.

— Чаму менавіта яна — брудная растропа?!
— бурчэла мятла.

— Дзе тут справядлівасць? — крычаў на ўвесь двор растапыраны венік.

— Парушэнне ўсіх норм!.. — ёрзаў ад злосці шуфлік.

— Зноў тут хітрыкі дворніка Цімоха, — шыпела з-пад лавы шчотка.

— Годзе, калегі, хвалявацца, — сцішыў спрэчку прыгажун пыласос, пабліскваючы лакіраванымі бакамі. — Самі ж вы прызначылі старшынёй журы швабру — сяброўку анучы.

Прыхільнікі чысціні прыкусілі языкі.

**Савелій Паўлаў**

## ДЛЯ ЧАГО ВУШЫ

У класе настаўнік тлумачыць пабудову цела чалавека. Вытлумачыўшы, спытаў у Міколкі:

— Для чаго ў чалавека вушы?

— Каб бачыць, — адказаў вучань.

— Недарэчнасць, — сказаў настаўнік, — вушамі не можам бачыць.

— Так, не можам, — згадзіўся вучань. — Але калі б мы не мелі вушэй на галаве, то шапка закрывала б вочы...

Будзільнік заводзіць ці ты прагаворыш да раніцы?



Непрыстойна драмаць на працы, калі іншыя спяць.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У час землетрасення муж будзіць жонку:

— Усё, цяпер і я бачу, што ў мяне была гарачка: раней толькі мяне трасло, а цяпер і зямлю. Вядзі да лекара.

✲

— Які ў цябе цудоўны мопс.
— Гэта паліцэйскі сабака!
— А па выглядзе не скажаш.
— Ён працуе ў тайнай паліцыі.

✲

— Колькі грамаў у кілаграме? — пытае ўладальнік каўбаснай крамы ў прыйшоўшага да яго наймацца мясніка.
— Васемсот пяцьдзесят!
— Дасканала! Можаце заўтра распачынаць працу!



З „Весніка Задрыпоніі“

## ЯК ЗРАБІЦЬ СВЯКРОЎ ПАКОРЛІВАЙ

Для падатлівасці, у параўнанні з мужам, свякроў уяўляе сабой больш цяжкую і складаную катэгорыю. Але, нягледзячы на гэта, не дурыцеся і ні ў якім выпадку не сыпце ёй соль у вуха! Дзяцей жа выгадаваць трэба! Таму зброяй барацьбы супраць яе ў першую чаргу вы павінны выкарыстаць самога мужа — яе ж сына. У прыватнасці, муж з-за кахання і павагі да вас павінен заўсёды ганьбіць сваю маці, прымусіць яе быць нямой, папрасіць прабачэння ў вас. Пасля ўсяго гэтага вы можаце свякроў хоць абгрызці і з'есці.



Гармонія традыцыі і НТР.

## ПАСЛЯДЗЕЯННЕ

Пан Задрыпкоўскі хваліцца сваім калегам:

— Нейк на вечарынцы я залажыўся, што за адным захадам з'ем сорак бутэрбродаў, і выйграў заклад.

— І без шкоды?

— На жаль, са шкодай. З гэтай пары мяне ні ў якую кампанію не запрашаюць...

## ІДУ ДА МАМЫ

Я пасварыўся з жонкаю.

Сяджу, раблю выгляд, быццам чытаю газету, а жонка моўчкі апранае паліто. Узяўшы з сабою ўсё неабходнае, яна скупа кідае мне з парога:

— Іду да мамы.

І я застаюся адзін.

Праз гадзіну гучыць званок. Адчыняю. Нават не глянуўшы на мяне, жонка праходзіць на кухню і пачынае выкладваць з торбаў памідоры, моркву, агуркі...

...Я забыў сказаць, што мама — мая цёшча — працуе на гароднінай базе. Загадчыцай.



# Курёзы

## ХОДЗІКІ

Некалі сімвалам ціхага мяшчанскага багацця былі гадзіннікі з зязюляю. Нядаўна адна тэхаская фірма выпусціла гадзіннік, які сімвалізуе славуты „амерыканскі лад жыцця“. Гэта такія ж мяшчанскія ходзікі, толькі з акенца замест зязюлі выстаўляецца мініяцюрная рука з рэвальверам, і адпаведная колькасць выстралаў паказвае час.

## ВАКОЛ ФУТБОЛА

Незвычайна закончыўся футбольны матч за кубак Іспаніі паміж камандамі „Эльдэнцэ“ і „Мальорка атлетыка“. У канцы сустрэчы ў саставе каманды „Эльдэнцэ“ заставалася ўсяго 6 гульцоў. За спрэчкі з суддзёй з поля былі выдалены 5 футбалістаў гэтага клуба.

Пасля першага тайма „Эльдэнцэ“ вяла ў ліку 1:0. Скандал адбыўся пасля таго, як „Мальорка“ зраўняла вынік. Арбітр сустрэчы Казас Вачунана на здзіўленне ўсіх прысутных на гульні адзін за адным выганяў з поля ігракоў „Эльдэнцэ“. Калі іх засталося шэсць, ён прадоўжыў гульню. „Эльдэнцэ“ прайграў — 1:3.




Найлепшыя фантасты — злосныя паклёпнікі.